# СТАНОЎКАЯ ПРОБА СІЛАЎ ЗМАГАНЬНЯ

Пакліканьне у Беларускую Краёвую Абарону усюды прайшло з вялікім нацыянальным уздымам. З гордасьцю можам сьцьвердзіць, што гэтую вялікую пробу нацыянальных сілаў беларускі народ здаў лепш, чымся маглі чакаць найбольшыя аптымістыя.

Гэта дае нам шмат чаго павучальнага. Гэта доказ, што беларускі народ хоча і будзе змагацца за сваю будучыню. Гэта, таксама, доказ, што рэцыдыва бальшавізму нам не пагражае, што ёсьць нязвычайна важным у нашым змаганьні. Бо каб яно давяло нас да нашых мэтаў, неабходна перадусім быць загартаваным духова на уплывы ворага.

Мы, беларусы, у большай ці меншай ступені перажылі бальшавізм на сваёй скуры і ведаем яго ня толькі тэарэтычна, але і практычна. Мы ня верым ні у якую эвалюцыю бальшавізму. Для нас не адыгрывае ніякай ролі, ці Молатаў будзе «действительным тайным советником», ці савецкім камісарам, ці чырвоныя афіцэры і байцы будуць насіць пагоны, ці не, ці на іхных грудзёх будуць вісець адзнакі Кутузава, Суворава, Аляксандра Неўскага, ці толькі ордэн Леніна. Не адыгрывае, таксама, ролі і тое, ці гімнам СССР будзе інтэрнацыянал, ці якаясь песьня аб вялікай Русі. Мы добра ведаем, што усе гэтыя зьмены ні у якой меры ня зьмянілі істоты бальшавізму, ані не зьмянілі крывавай псыхікі бальшавікоў. За гэтай вонкавай шырмай хаваецца тое-ж самае НКВД, той самы бальшавік, мэтай якога ёсьць разбурэньне і ніішчэньне усяго небальшавіцкага. Нават больш таго: мы пераканаыя, што сяньняшні бальшавізм ёсьць яшчэ больш крывавы за перадваенны. Вайна навучыла і яго шмат чаму, адчыніла і яму шмат на што вочы. У сувязі з гэтым ён наважыўся на новыя крывавыя мерапрыёмствы дзеля умацаваньня сваёй улады, якія, у выпадку перамогі, будзе з зялезнай пасьлядоўнасьцю праводзіць. Гэткім мерапрыёмствам ёсьць і плян поўнага зьнішчэньня беларускага народу, як антысавецкага. Калі мы з напружанай увагай слухалі кап. Капора, дык ніхто ні на часіну ня меў сумліву, што бальшавікі да драбніцаў зрабілі-б з намі тое, што сказаў Капор, калі-б перамаглі. Гэта зусім ляжыць у іхнай натуры, і ёсьць зусім зразумела. Калі-б нам хтось пачаў паважна даказваць, што, устанаўляючы замежныя прадстаўніцтвы савецкіх рэспублікаў, бальшавікі хочуць, запраўды, зрабіць іх незалежнымі, дык гэтаму не паверыў-бы ніводзін беларус, але мы верым, калі нам кажуць, што бальшавікі маюць плян зьнішчэньня нашага народу.

Наўзорнае выкананьне загаду Прэзыдэнта аб Беларускай Краёвай Абароне — гэта, якраз, доказ таго, што беларускі народ вельмі добра ведае бальшавізм і поўнасьцю разумее, што перамога апошняга азначала-б для нас абсалютную згубу.

I яшчэ аб адным важным мамэньце яно сьветчыць, паймення, што нават за 25 год бальшавізму не удалося зламаць беларускага селяніна, вынішчыць у ім дух апору. Праўда, мы можам яшчэ сустрэць людзей, якія у выніку перажытых жудасьцяў, цалкам зламаныя і няздольныя на ніякую рэакцыю. Было-б запраўднай трагедыяй, калі-б бальшавіком удалося зрабіць гэта з нашым селянінам. На шчасьце, так ня ёсьць. Прыкладнае выкананьне загаду у вакругах, якія былі пад бальшавікамі больш за 20 год, сьветчыць, што беларускі селянін і тут не паддаўся бальшавіком. Ані жудасны савецкі рэжым, ані калгасная няволя ня здолелі пераўзгадаваць беларускага селяніна так, як хацелі бальшавікі, г. зв., каб ён зрабіўся толькі людзкім аўтаматам і зусім забыўся аб сваёй беларускасьці, аб сваіх інтарэсах і мэтах. Дагэтуль мы ня мелі нагоды пераканацца, што так ёсьць. Беларуская Краёвая Абарона — гэта першае масавае сьцьверджаньне наяўнасьці у беларускага селяніна і ува усходняй Беларусі духу змаганьня. Дарма, што нашае сялянства жыло у такіх розных сацыяльных і палітычных абставінах, — яно усюды захавала сваю беларускасьць, волю да жыцьця і змаганьня.

Напасьледак шмат новага і цікавага мы маглі наглядаць у гэтыя дні і у дачыненьні да беларускае жанчыны. З поўным задавальненьнем можам сказаць, што у сваёй масе яна ужо не зьяўляецца бязвольнай, забітай істотай, якая далей свайго панадворку нічога ня бачыць. Гэта ужо грамадзянка свайго Краю. Рэдка дзе можна было бачыць у яе сьлёзы, калі яна пасылала у Краёвую Абарону мужа, ці сына. Як масавае зьявішча, трэба адцеміць зразуменьне неабходнасьці змаганьня за народ і Бацькаўшчыну. Гэткую грамадзкую паставу беларускай жанчыны мы маглі ужо не адзін раз сьцьвердзіць пры твараньні абаронных вёсак, калі жанкі нагаварвалі сваіх мужчынаў браць зброю. У значна большай ступені яна выявілася у часе пакліканьня у БКА. «Сухі хлеб буду есьці, чужых сірот вазьму гадаваць, але ты, мой любы, ідзі у Абарону» — казала ужо беларуская жанчына свайму сыну, мужу, заручніку. Гэта вельмі важны доказ таго, што псыхіка беларускай жанчыны пераламалася у дадатным кірунку. Гэта аснова, на якой разбудуецца нацыянальны сьветапагляд беларускай жанчыны, удзячная глеба, на якой можа вырасьці патрыятычная беларуская маці, ад якой дзеці пяоймуць любоў да Краю і народу.

Сьведамасьць агульнага палажэньня, зразуменьне небясьпекі для народу, патрэба змаганьня, а у выніку гэтага — кансалідацыя сілаў народу — вось тая навука, якую нам дае пакліканьне у БКА. Мы можам з большай верай, пэўнасьцяй і надзеяй глядзець у сваю будучыню. Але мы не павінны затрымоўвацца на дасягнутым. Ні на часіну нельга забывацца, што навакол нашай Бацькаўшчыны шалее пажар, языкі якога пачалі ужо лізаць і наш дом. А ёсьць яшчэ сярод нас такія, што у гэты мамэнт ня ведаюць, што маюць рабіць. Іх трэба усьведаміць і вучыць, як маюць гэты пажар гасіць.

Можам толькі сказаць, што калі кажны з нас выканае свой абавязак, дык мы выратуем свой дом. А дзеля гэтага якраз і патрэбна бязупыннае змаганьне з агнём і вучэньне іншых змагацца з ім.




**„Тарас на Парнасе"**

*Беларускі літаратар Лявон Крывічанін піша лібрэта да апэрэты «Тарас на Парнасе». Музыку будзе пісаць кампазытар А. Туранкоў.*

**У Менскім Беларускім Тэатры**

*Менскі Беларускі Тэатар закончыў працу над пастаноўкаю драмы «Згубленае жыцьцё» Тодара Лебяды. Галоўныя ролі: Падарожны — артыстыя Вазьнясенскі і Цурбакоў; Агата — артысткі Пыжэвіч і Багатырэвіч; Паскудны — артыстыя Матусэвіч і Залівака і г. д. Афармленьне — мастак сп. Алтуф'еў. Музыка — кампазытар Мікола Шчаглоў. Пастаноўшчык — Вячаслаў Селях. Асыстэнт-рэжысэр — Мікола Цурбакоў. Аднаўленая тэатрам праца як у галіне опэры так і драмы праходзіць пасьпяхова. Павялічваецца склад балету. Пры драме, балеце і опэрным хоры арганізаваныя студыйныя групы з моладзі. Опэрная група запрошаная на пастаноўкі у фронттэатар. Сялета улетку прадугледжваецца гастрольнае падарожжа опэры і драмы у Вільню, Рыгу, Горадню.*

**Праца над новай апэрэтай**

*Кампазытар М. Равенскі піша апэрэту «Залёты» на тэкст В. Дуніна-Марцінкевіча.*

**Музычная школа**

*У Менску неўзабаве мае адчыніцца музычная школа. Ужо укладзеныя штаты, зацьверджаны каштарыс. Музычная школа будзе мець клясы іскрыпкі, басолі, сольных сьпеваў, народных інструмэнтаў (цымбалы, баян) і абавязкава тэарэтычную клясу.*

**У Менскім гарадзкім БНЗ**

*Пры Менскім гарадзкім беларускім культурным згуртаваньні арганізавана эстрада, да якой далучана аркестра цымбалістых, арганізавана духавая аркестра пад кіраўніцтвам капэльмэйстара Воўкава і джаз пад кіраўніцтвам сп. Лосева, які ужо выступае. Для упарадкаваньня канцэртнае справы на прадпрыемствах і нямецкіх установах арганізавана канцэртна-эстраднае бюро на чале з артысткай Вержбаловіч і рэжысэрам Міласлаўскім.*

---

*На вокладцы: Артысты У. Говар-Бандарэнка у ролі Язэпа («На Антокалі» — Фр. Аляхновіча) на сцэне Менскага Беларускага Гарадзкога Тэатру.*

---

*Выдавецтва часапісу «Новы Шлях»: Менск, вул. Рагнеды 2, тэл. 21300. Галоўны рэдактар У. Сядура.*

# З фото-камэрай





*Уверсе:* Нямецкія парашутыстыя, што змагаюцца у Італіі, з дня на дзень паказваюць прыклады вялікае адвагі і высокае баёвае падрыхтоўкі. На здымку — нямецкія парашутыстыя у час кароткага адпачынку у раёне бітваў ля Нэттуна.

*Зьлева:* Сталёвы «палец». Адна са шматлікіх тысячаў магутных гарматаў, што ахоўваюць Атлянтыцкае узьбярэжжа на выпадак спробы гвалтоўнага урыву ворагаў Эўропы.

*Зьлева унізе:* Сучасны Букарэшт. Яшчэ ня гэтак даўно сталіца Румыніі — Букарэшт быў горадам садоў і невялікіх будоваў. У апошнія гады Букарэшт моцна зьмяніўся. Сталіца узбагацілася шмат якімі новымі будынкамі — узорамі сучаснае архітэктуры.

*Унізе:* Нямецкая армія аддае шмат увагі на аднаўленьне здароўя параненых. На абтоку Крыце параненыя, што выздараўліваюць, займаюцца гімнастыкай на сходнях руінаў старадаўніх палацаў.






# БАЛОНКА Б.Ц.РАДЫ



Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады
сп. Радаслаў Астроўскі.



Беларускі вайсковы дзеяч, Сябра
Беларускае Цэнтральнае Рады
сп. Францішак Кушэль.



Першы Віцэпрэзыдэнт Беларускай
Цэнтральнай Рады
сп. Мікалай Шкелёнак,



Сябра Беларускай Цэнтральнай Рады, Кіраўнік БКЗ
сп. Аўген Калубовіч



Сябра Беларускай Цэнтральнай Рады, выдатны беларускі
гаспадарнік
сп. Сямён Кандыбовіч.



Сябра Беларускай Рады, Заступнік Кіраўніка БКЗ, Кіраўнік Аддзелу Мастацтва
сп. Вячаслаў Селях.



Каля уваходу у будынак БЦР у Менску

# КВЕТКА ПАПАРАЦІ

*З культурнага жыцьця Беласточчыны. — Беларускі балет у апрацаваньні сп. Г. Бэкер*



*Сон аб «кветцы шчасьця».*

Кіраўніца беларускага балету пры Беларускім Аб'яднаньні у Беластоку сп. Ганна Бэкер, апрацавала новы беларускі балет у двух актах, асновавы на творы Канстанцыі Буйла «Кветка папараці». Каб пазнаёміць нашае грамадзтва з новым балетам, мы падаем ніжэй лібрэта (кароткі зьмест) паводля газэты «Новая дарога».

Зьмест балету заснаваны на ведамым народным павер'і, што у Купальскую ноч адзін раз у год зацьвітае кветка папараці агністым цьветам. Каму пашчасьціць здабыць гэтую кветку, нягледзячы на розныя страхі, той становіцца валадаром шчасьця і багацьця. Але нікому яшчэ не удалося здабыць агністай кветкі шчасьця.

### Частка першая.

Уначы на Івана Купалу атрымліваюць сілу усе лясныя духі: німфы, русалкі, гномы, ведзьмы — і усе змагаюцца з чалавекам, які хоча авалодаць кветкай папараці. Балет пачынаецца з таго, што у лесе, на паляне, сьпявае трава-папараць, сьпявае адзін раз у год, у Купальскую ноч. Паміж кустамі папараці сьпяць німфы, якіх будзіць свавольны хохлік. Німфы падымаюцца, зрываюць лісьцё папараці і танцуюць з ім. Прылятае крылаты Лясун — сябра гульняў німфаў і таксама танцуе з імі. Раптам чуецца здалёк сьпеў: гэта ідуць дзяўчаты у лес паваражыць аб сваім лёсе, аб сваім жаніху. Лясныя духі ад страху разьбягаюцца і хаваюцца у лесе. Але моладзь праходзіць міма далей у лес. Ізноў паляна пакрываецца вясёлымі ляснымі жыхарамі. Танцуюць німфы, прыходзяць старыя гномы і круцяцца са сваймі сякерамі. Ізноў моладзь парушае іхную вясёласьць. На палянку са сьмехам і сьпевам выбягаюць дзяўчаты і хлапцы. Усю Купальскую ноч яны гуляюць у лесе: паляць вогнішча, скачуць праз яго, віюць вянкі і кідаюць іх на ваду. Усё гэта пераплецена купальскімі песьнямі і народнымі танцамі.

### Частка другая.

Дзяўчаты і хлапцы пайшлі далей у лес. На паляне зьяўляецца чалавек — гэта той, які уздумаў спрабаваць шчасьця: сарваць кветку папараці і выкапаць скарб. Яшчэ у сяле пяе певень. Чалавек сядае пад кустом, чакаючы поўначы. Неспасьцярожна ён засынае. Яму сьняцца страшныя лясныя духі. У гэтым часе жартаўлівы гном будзіць яго галінкай. З перапуду чалавек хапаецца за лапату і пачынае капаць зямлю. Тымчасам розныя духі вылазяць з усіх бакоў і стараюцца яму перашкодзіць у ягонай працы. Чалавек хоча уцякаць, але гэтым часам усё сьціхае. Куст папаратніка асьвятляецца чырвоным сьвятлом. Гэта зацьвіла кветка папараці... чалавек сьмела зрывае яе, але замяж кветкі зьяўляецца маленькая эльфа-каралеўна, якая танцуе вакол яго. Ён пачынае гуляць з ёю, як з матыльком, падкідаючы вакол сябе. У гэтым часе каралеўна кліча гномаў, якія адкопваюць скарб і аддаюць яго чалавеку. Шчасьлівы чалавек сядае пад кустом і прыглядаецца да танцу Купальскіх сьветлячкоў. Але набліжаецца раніца. Ужо сьвітае. Каралеўна зачароўвае чалавека. Ён ізноў засынае, а жартаўлівыя гномы забіраюць у яго скарб. Вось ужо і раніца — і прыходзіць вясёлая моладзь. Яна шукае адважнага чалавека і знаходзіць яго. Яна са сьмехам будзіць яго. Ён не разумее, дзе падзеўся ягоны скарб. Ён толькі цяпер зразумеў, што гэта быў чароўны, нязбыўны сон аб шчасьці...

Зьяўленьне балету «Кветка папараці» і паказ яго у Беластоку становіць добры прыклад таго, як, нават пры невялікіх сілах і матар'яльных магчымасьцях, аддалай працай можна ствараць новыя культурныя каштоўнасьці.

---

*Галіна Бузук*

## НОЧ

*Апусьціла крыльлі ночка над зямлёю;*
*Нейдзе лес шумлівы Нёмну кінуў тон.*
*Там туман павіснуў мутнай паласою,*
*І заліў узгоркі шэрым сумам ён.*

*Ня мігціць ўжо неба сотнямі зарніцаў,*
*Што так маняць думку нейдзе ў вышыню;*
*Толькі сьціпшны хор нясьціхных шчэ крыніцаў*
*Закранае доўгай ночы цішыню...*

*Наваградак, 1943 г.*

---



*Канцовая сцэна з балету «Кветка папараці» — нязьдзейсьнены сон.*



*Балетная група пры Беларускім Аб'яднаньні у Беластоку пасьля генэральнае рэпэтыцыі «Кветкі папараці».*

# БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРНАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ

Дзень 6 лютага 1944 году упісаў новую гістарычную дату у календар нашых заваёваў — дату урачыстага абвешчаньня Беларускага Культурнага Згуртаваньня. Ягонае утварэньне становіць сабою лёгічны працэс разьвіцьця падзеяў, што пачаліся з днём вызваленьня нашае Бацькаўшчыны ад бальшавіцкае няволі. Згуртаваньне паклікана да жыцьця жыцьцёвай неабходнасьцю — ідэяй адраджэньня і тварэньня новае нацыянальнае беларускае культуры.

Першы Віцэпрэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады сп. М. Шкелёнак у сваёй прамове у дзень абвешчаньня Беларускага Культурнага Згуртаваньня гаварыў: «Нацыянальная культура народу ёсьць крыніцай ягонае духовае моцы. Гэта той Прамэтэяў агонь, які дало нам само неба. Калі гэтая крыніца высыхае, калі гэты агонь гасьне, тады параліжуецца розум народу і перастае біцца ягонае сэрца. Згуба свае роднае культуры, замена яе чужой, азначае сьмерць народу. Ен ужо тады ня ёсьць раўнапраўным сябрам у вагульнай сям'і народаў і робіцца нявольнікам чужое культуры. А за культурнай няволяй, як няўхільны вынік яе, наступае і няволя палітычная. Гісторыя усіх народаў сьвету навучае нас, што яны за найвышэйшы свой скарб уважалі родную культуру і таму ня толькі рупіліся аб яе захаваньні і разьвіцьці, але і аб пашырэньні між іншых народаў. А з культураў асобных народаў складаецца культура чэлавецтва. Народ, які у гэтую агульную скарбніцу нічога свайго ня уносіць, спатыкае толькі пагарду».



*Кіраўнік аддзелу музыкі, ведамы беларускі кампазытар Мікола Шчаглоў.*

Культурная і палітычная няволя беларускага народу мінулася, і мы выйшлі на вольны і самастойны шлях свайго нацыянальнага жыцьця, каб ісьці да запраўдных узвышшаў нацыянальнае беларускае культуры і мастацтва. Беларускае Культурнае Згуртаваньне, як гаварылася у ягоным статуце, створана з мэтаю арганізацыі найбольш інтэнсыўнага разьвіцьця і пашырэньня сярод жыхарства Беларусі нацыянальнае беларускае культуры і набліжэньня яе да эўрапэйскага культурнага сьветагляду. Нашая беларуская культура можа стацца здабыткам агульна-чалавечае культуры толькі тады, калі яна будзе нацыянальнай, самабытнай у літаральным разуменьні гэтага значэньня.

Вось чаму галоўным заданьнем Беларускага Культурнага Згуртаваньня і ёсьць як найхутчэйшае зьбіраньне і гуртаваньне усіх беларускіх творцаў, як старэйшага, так і маладзейшага пакаленьня. Адной з чарговых задачаў БКЗ ёсьць і тое, каб як найхутчэй пазбыцца спадчыны варожае народу жыда-камуністычнае «культуры». Трэба адрадзіць у сьведамасьці народу традыцыі нашае слаўнае мінуўшчыны, трэба сказаць кажнаму беларусу, што ягоная Бацькаўшчына мела і мае вельмі шмат каштоўнасьцяў, створаных рукамі і розумам нашых вялікіх продкаў, тых каштоўнасьцяў і скарбаў, частку якіх бальшавікі укралі у народзе і зьнішчылі, але ня выкрасьлілі з гісторыі нашага культурна-нацыянальнага жыцьця; трэба расказаць нашаму народу аб слаўных героях і пакутніках нацыянальнага адраджэньня. Культуру мінуўшчыны і сучаснасьці, ейны дух і асалоду трэба данесьці да сэрца кажнага беларуса; трэба сказаць свайму народу, што укрыжаваная ворагамі ягоная Бацькаўшчына уваскрэсла, што яна жыла, жыве і жыць будзе, пакуль будзе жыць і сам наш беларускі народ.

Сяньня, не зважаючы на жорсткі ход вайны, у якой вырашаецца канчальна лёс нашага народу, мы дасягнулі ужо вялікіх посьпехаў у справе разьвіцьця беларускае культуры і мастацтва. Сучасныя беларускія паэты і пісьменьнікі стварылі шмат высакамастацкіх твораў — раманаў і аповесьцяў, п'есаў і паэмаў, апавяданьняў і вершаў. Вялікі лік маладых паэтаў і пісьменьнікаў зрабілі ужо свае імёны ведамымі усяму беларускаму народу.



*Кіраўнік аддзелу прапаганды беларускае культуры, паэта Уладзімер Гуцька (Дудзіцкі).*

Асабліва вялікага росквіту дасягнула музыка. Найлепшыя сучасныя кампазытары перажываюць такі творчы узьлёт, якога яшчэ ніколі ня ведала гісторыя нашае музыкі. Ня меншых посьпехаў дасягнулі і нашыя мастакі, стварыўшы вялікую колькасьць новых высакамастацкіх палотнаў. Усё гэта сталася магчымым у выніку таго, што нашыя творцы пазбыліся бальшавіцкага ярма, якое шмат гадоў скоўвала іхныя таленты і імкненьні.

З днём утварэньня Беларускага Культурнага Згуртаваньня разьвіцьцё беларускае нацыянальнае культуры і мастацтва стала на новы шлях свайго жыцьця. Правы самастойнага кіраваньня усімі галінамі разьвіцьця і тварэньня беларускае культуры перайшлі у нашыя беларускія рукі. Такім чынам, мы маем цяпер легалізаваную арганізацыю, якая клапоціцца і будзе клапаціцца, узначальвае і будзе узначальваць справу Вялікага Нацыянальнага Адраджэньня. Сябрамі Цэнтральнага Ураду Згуртаваньня, кіраўнікамі аддзелаў БКЗ сталі лепшыя беларускія творчыя сілы — паэты і пісьменьнікі, кампазытары і літаратары. Узначальвае Беларускае Культурнае Згуртаваньне беларускі нацыяналісты — літаратар Аўген Калубовіч.

Цэнтральны Урад Беларускага Культурнага Згуртаваньня скончыўшы свой арганізацыйны пэрыяд, адразу перайшоў да канкрэтнае творчае працы. Аддзел прафэсыйнага мастацтва, якім кіруе ведамы артысты-рэжысэр сп. Вячаслаў Селях, вырашыў за гэты час шмат важных прынцыповых пытаньняў у галіне разьвіцьця тэатральнага мастацтва, праглядзеў рэпэртуар Менскага Беларускага Гарадзкога Тэатру, абняў сваім кіраўніцтвам тэатар, вядзе працу у справе наладжваньня, арганізацыі і удасканальваньня працы у дамох беларускае культуры, клапоціцца аб павышэньні нацыянальнае сьведамасьці актораў, аб стварэньні новага рэпэртуару і г. д.



*Кіраўнічка аддзелу літаратуры, беларуская паэтка Натальля Арсеньнева.*

Аддзел прапаганды беларускае культуры скіраваў усю сваю увагу на тое, каб узнавіць у памяці і сьведамасьці нашага народу вялікую культуру мінуўшчыны і вялікія гістарычныя традыцыі народу. Разам з гэтым імкнецца папулярызаваць лепшыя творы паэтаў і пісьменьнікаў, кампазытараў і мастакоў, творы тэатральнага мастацтва і г. д. Пры дапамозе радыё і пэрыядычнага беларускага друку наш народ мае магчымасьць знаёміцца і пазнаваць нашую культуру ува усіх ейных праявах і формах.

Аддзел літаратуры вядзе сваю працу у кірунку выяўленьня новых паэтаў і пісьменьнікаў, драматургаў і здольных журналістых. Дае сталыя кансультацыі маладым аўтарам, друкуе лепшыя іхныя творы, вядзе падрыхтоўчую працу да выданьня асобнымі кніжкамі лепшых твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў.

Рэдакцыя «Узвышша», за рэдактара якога працуе былы узвышэнец пісьменьнік Юрка Віцьбіч, здала у друк першы, другі і трэйці нумары часапісу; падрыхтаваны да друку чацьверты, пяты і шосты нумары «Узвышша».

Цэнтральны Урад Беларускага Культурнага Згуртаваньня з днём 5 красавіка г. г. скончыў поўнасьцю свой арганізацыйны пэрыяд, паклікаўшы да жыцьця і дзейнасьці БКЗ у вакругах і паветах Беларусі. 5 красавіка г. г. адбылася І-ая Канфэрэнцыя акруговых кіраўнікоў БКЗ. На Канфэрэнцыі быў падрабязна абмеркаваны Статут і Арганізацыйны рэгулямін БКЗ.

Такім парадкам, справе разьвіцьця беларускае культуры і мастацтва, справе арганізацыі нацыянальнага беларускага жыцьця ува усёй Беларусі дадзены адпаведны кірунак. Усе акруговыя кіраўнікі БКЗ, атрымаўшы канкрэтныя парады і настаўленьні, выказалі сваё вялікае жаданьне і волю да ахвярнага служэньня свайму народу і Бацькаўшчыне.

Перажываючы пэрыяд Вялікага Нацыянальнага Адраджэньня, усе беларускія творцы з гонарам сяньня гавораць: «Нашыя сьвечкі запаленыя, і мы становімся запраўднымі апосталамі беларускае справы, апосталамі беларускае культуры, якая устане паказаць нашую сілу і славу крывічанскую, паказаць і зрабіць яе ведамай ня толькі нашаму народу, але і народам сьвету».

*Кіраўнік Аддзелу прапаганды беларускае культуры БКЗ,*
*Сябра Цэнтральнага Ураду*
*Уладзімер Гуцька*


Сябра Цэнтральнага Ураду БКЗ, рэдактар літаратурна-мастацкага часапісу «Узвышша», ведамы беларускі пісьменьнік Юрка Віцьбіч.


Кіраўнік аддзелу музэяў і краязнаўства Антон Шукелайць.


Сябры Цэнтральнага Ураду Беларускага Культурнага Згуртаваньня праслухоўваюць новыя творы беларускае паэткі Натальлі Арсеньневай.

# БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

*Адвага або мёд п'е, або кайданы трэ.*

*Хоць ты яму плюй у вочы, дык ён кажа дождж ідзе (пра бессаромнага).*

*Хоць ты кол на галаве чашы (пра упартага).*

*Стварыў Бог, дый сам каецца (пра нягодніка).*

*Як дуду надзьмеш, так дуда і грае (пра слабахарактарнага, што паддаецца розным уплывам).*

*Асоба — гаршкі лізаць (пра пыхлівага).*

*Ні мычыць, ні целецца (пра нерашучага).*

*Нежнай псярні цюцька (пра далікатнага да работы і да яды).*

*Ходзіць ціхенька, ды думае ліхенька (пра ціхага ды злога).*

*Галава вылезла, а вума ня вынесла (пра старога, лысага ды неразумнага).*

*Трэйці дзень, як перастаў красьці (пра нячэснага).*

*У яго і шыла голіць (пра хвальку).*

*Рэшатам золата мераюць, а рэшата нёзашта купіць (пра людзей, якія хваляцца багацьцем).*

*У яго і ўзімку лёду не дастанеш (пра скупога).*

*Бела мыецца, ды ня чыста ходзіць (пра неахайнага).*

*Нараві, як ліхой скуле (пра наравістага).*

*Яму гавары, а ён у вір дзівіцца (пра неўважлівага і непаслушнага).*

*Яму не кладзі пальца у рот (пра небясьпечнага).*

*Яму і паміраць часу ня будзе (пра вельмі працавітага).*

*Ен наўчыць на сабак брахаць (пра чалавека, які навучае благому).*

*Ен на гэтым сабаку зьеў (пра дасьветчанага у якой-небудзь справе).*

*Знае ён курыныя цыцкі (пра чалавека, які мяркуе аб тым, чаго не разумее).*

*Народ! кладзі яму у рот, дык ён яшчэ і морду адварачвае (пра такога, што не разумее зробленага яму дабра).*

*Ні сюды, ні туды, мае мілыя дуды (пра непаваротлівую жанчыну).*

*Прасіуў пан на талаку, а ня пойдзеш — за лоб павалаку.*

*Пана павесяць, тры дні перад ім шапку зьнімай, — часам адарвецца.*

*Паны б'юцца, а у мужыкоў чубы трашчаць.*

*Паздароў, Божа, паноў, што у нас ні коняй, ні кароў.*

*Цяпер-то нам і пагуляці, як нечага заганяці.*

*Пан, як пан, ды паняняты, хоць уцякай з хаты.*

*Служы пану верна, дык пан табе . . .*

*Панская ласка да парога.*

*Другі жупан ня варт сьвіткі.*

*Ты вашэць і я вашэць, хто нам хлеба напашэць?*

# Творчыя праблемы Беларускага Тэатру

Сярод наймагутнейшых сродкаў ажыцьцяўленьня тых вялізарных заданьняў, што паўстаюць сяньня у галінах адбудовы нашае бацькаўшчыны, тэатар займае адно з адказных мейсцаў. Сутнасьць тэатральнага мастацтва тая, што яно зьяўляецца моцнай зброяй у заваёве думак і пачуцьцяў чалавека, у абуджэньні і арганізацыі ягоных імкненьняў, ягоных жаданьняў.

Тэатар, як жывое мастацтва, няпрыкметна, шляхам беспасярэдняга уплыву, мабілізуе гэтыя думкі і пачуцьці у тым ці іншым кірунку, абуджае пэўныя эмоцыі і станоўка афармляе пэўны і непахісны сьветапагляд. Праз гэта усякі запраўдны тэатар, а гэта значыць і наш Беларускі тэатар зьяўляецца пэўным фактарам, які можа і павінен адыграць значную ролю у адбудове на руінах старога, нядаўна мінулага нашае радзімы, нашае бацькаўшчыны, якая з поўным правам заваёўвае сабе пачэснае мейсца у сям'і народаў Новае Эўропы.


Салістка Бандарэнка у ролі Алены з опэры «Лясное возера» М. Шчаглова на сцэне Менскага Беларускага Гарадзкога Тэатру.

Паўстае пытаньне: што-ж канкрэтна павінен рабіць ужо сяньня наш Беларускі тэатар?

Калі першы пасьля вызваленьня пэрыяд у працы Беларускага тэатру у Менску быў пераважна арганізацыйны, калі зьбіраліся і згуртоўваліся патрэбныя сілы, калі тэатар ня меў тады яшчэ магчымасьці ставіць у сваёй творчасьці пэўныя праблемы, дык сяньня, у трэйці год існаваньня тэатру, гэтыя праблемы паўсталі перад тэатрам ува усю веліч і патрабуюць неадкладнай гарачай і станоўкай працы.

Якою-ж павінна быць гэтая праца?

Зусім зразумела, што перш, чымся пачынаць якую-небудзь будоўлю новага, ці адбудоўваць старое, дык спачатку трэба ачысьціць для будоўлі мейсца, або зьмесьці тое сьмецьце, што на яго нанесла з часам навальніца, або проста вецер. А гэта нерашчышчанае, гэта забруджанае, — гэта усё наша жыцьцё, пасьля 25-гадовага панаваньня бальшавікоў з іхнаю марксыцка-жыдоўскай ідэялёгіяй. Гэтае 25-гадовае бандыцкае панаваньне у нашай бацькаўшчыне зьнішчыла як у псыхалёгіі людзей, гэтак і у самым жыцьці і навокал яго шмат усяго таго прыгожага, таго прывабнага, што складалася і намнажалася стагодзьдзямі, як наш побыт з ягонымі прыгожымі традыцыямі. Заміж усяго гэтага, як у думках і пачуцьцях нашага народу, гэтак і у вадносінах паміж людзьмі, паміж бацькамі і дзецьмі, паміж моладзьдзю і старымі, ува усім панавала жыда-марксыцкая спадчына, усюды ляжаў грубы пласт бальшавіцкага сьмецьця. Нашае першае і галоўнае заданьне у вадбудове нашае нацыянальнае культуры, — гэта ачысьціць наш побыт, нашае жыцьцё ад бальшавіцкае спадчыны і перш за усё ачысьціць псыхалёгію таго чалавека, які сфармаваўся пры бальшавізьме. Тэатру у гэтай справе павінна быць адведзена першае мейсца, бо тэатар, як мастацтва, найлепш непасрэдна і перш за усё узьдзейнічае на чалавечую псыхіку. Тэатар агітуе, тэатар захапляе і хвалюе, тэатар вабіць і абуджае пэўныя эмоцыі і пачуцьці. Вострым, трапным словам пякучай сатыры, пададзенай праз жыцьцёва-праўдзівы вобраз, наш тэатар павінен адчыняць вочы маласьведамых, паказваць усю жудасьць і брыдоту савецкай рэчаіснасьці, з якой некаторыя у свой час зжыліся, нібы з нармальным зьявішчам, пад уплывам траскучай і хлусьлівай бальшавіцкай прапаганды. Моцнымі, выразнымі малюнкамі з жыцьця падсавецкага жыхарства і асабліва з сялянскага жыцьця, з жудаснага калгаснага жыцьця і іншых фактаў «савецкага раю» у рэальна-праўдзівых пастаноўках на сцэнах тэатру — уваскрашаць гэтую жудасьць бальшавізму, аднаўляць усё у памяці людзей, якія шмат на што у гэтым забыліся, забыліся на зьдзекі і катаваньні лепшых прадстаўнікоў нашага народу у засьценьнях ЧК і НКВД.


Салістка Н. Чэмерысава у ролі Параскі у опэры «Купальле» А. Туранкова на сцэне Менскага Беларускага Гарадзкога Тэатру.

Сярод жыхарства назіраецца іншы раз некаторае прымірэньне з мінулым бальшавіцкім. Яшчэ часам блукаюць гэткія, што пры бальшавікох былі прымазаўшы-


Салістка Б. Вержбаловіч у ролі ведзьмы у опэры «Купальле» А. Туранкова на сцэне Менскага Беларускага Тэатру.


Артыстыя Говар-Бандарэнка і Несьцяровіч у п'есе «На Антокалі» Фр. Аляхновіча на сцэне Менскага Беларускага Тэатру.



*Сцэна з п'есы «На Антокалі» Францішка Аляхновіча у Менскім Беларускім Гарадзкім Тэатры.*



*Сцэна з п'есы «На Антокалі» Францішка Аляхновіча у Менскім Беларускім Гарадзкім Тэатры.*

ся да «партыйнага пірага» розных райкомаў ды гаркомаў. Вось яны пацiханьку уздыхаюць аб бальшавікох, лятуцяць аб іхным звароце і сеюць смутак і замяшаньне сярод маладушных. Ізноў-жа, на тэатральнай сцэне, у вадлаведных вобразах — выяўляць і гэтае блуканьне.

Паказваючы увесь бруд і ашуканства мінулага, жыдоўска-бальшавіцкага, марксыцка-інтэрнацыянальнага — абуджаць у сэрцах нашага народу высокі запраўдны патрыятызм і бязьмежную любоў да нашае бацькаўшчыны, той патрыятызм, які прыдушвалі у нашых сэрцах бальшавікі. Паказаць на сцэне у мастацкіх вобразах гістарычных герояў-патрыётаў, як, прыкладам, Кастусь Каліноўскі, як князь Полацкі Усяслаў і інш.

Усё гэта — у магчыма яскравых вобразах і у выразных малюнках.

Ужо закончаныя і падрыхтаваныя да пастаноўкі два выдатных сцэнічных творы — драма з жыцьця калгаснага сялянства «Згубленае жыцьцё» Тодара Лебяды і гістарычная опэра «Усяслаў Князь Полацкі» кампазытара М. Шчаглова на лібрэта паэткі Н. Арсеньневай.

Гэтыя пастаноўкі паводля свайго зьместу і моцы іхных вобразаў, напэўна, дадуць штуршок пісьменьнікам да напісаньня новых твораў гэткага гатунку. Пад уплывам гэткіх пастановак пісьменьнікі знойдуць у памяці сваёй нямала адпаведных сюжэтаў, каб стварыць новыя п'есы, у якіх адлюстроўвалася-б нядаўняе жудаснае савецкае, або геройчна-прывабнае з слаўнае мінуўшчыны бацькаўшчыны.

Сьцiгуючы сатырай, як новай мятлой вымятаючы сьмецьце нядаўняга бальшавіцкага, як з жыцьця, гэтак і з псыхалёгіі людзей, адначасна у вадпаведных прывабных малюнках і вобразах — ставіць пэўныя праблемы новага жыцьця, якім яно павінна быць у нашай бацькаўшчыне.

Вось галоўныя і неадкладныя заданьні нашага Беларускага тэатру.

Кажны можа сказаць: «Тэк-то так, але дайце рэпэртуар». Адказ на гэта адзін — дастаньце яго, зрабеце самі. Але нельга сядзець і чакаць, калі драматургі, або кампазытары прынясуць свае творы самі. Не, гэтак нічога ня зробіцца! Пад ляжачы камень і вада не цячэ. Трэба шукаць, трэба вабіць да сябе мастакоў — пісьменьнікаў, кампазытараў. Трэба праводзіць з імі гутаркі аб праблемах мастацтва, аб запатрабаваньнях жыцьця, аб заданьнях нашае нацыянальнае культуры, аб асобных тэмах у такіх кірунках і г. д. Вось гэтак толькі і можна здабыць рэпэртуар.

Што датычыць музычна-драматычных паказаў, паказаў Беларускае опэры, то тут трэба адзначыць яшчэ і іншыя, яшчэ і дадатковыя праблемы. Перад опэрай стаіць вельмі складаная і вельмі адказная праблема выхаваньня і перавыхаваньня чыстага музычнага парадку, асабліва нашага маладога пакаленьня, якое расло пры бальшавікох і набывала свой эстэтычны густ на розных савецкіх «дрындульках» розных жыдоўскіх «ардэнаносцаў» стылю Дунаеўскіх, Пакрасаў і іншых Кацманаў. У пераважнай бальшыні твораў гэтых кампазытараў быў танны плягіят на старадаўнія мэлёдыі старадаўніх г. зв. цыганскіх рамансаў. Прыкладаў гэткіх плягіятаў шмат. Усё гэта у бальшыні апрацоўвалася пад гэтак званы фокс-трот (як гумарыстычна некаторыя называюць «хвост-трет») і усё пушчалася у ход у клюбах праз патэфоны і аматарскія музычныя гурткі. Уся гэтая брыдота упарта выціскала з жыцьця нашую мілагучную беларускую народную песьню і ейную прыгожую мэлёдыю, падмяньваючы усё траскучай рытмічнай «факстроцьнай». Адны забываліся на нашую родную песьню і музыку, а іншыя, маладзейшыя, шмат чаго з гэтага прыгожага народнага песеннага фальклёру і ня ведаюць.

Заданьне музычных паказаў — опэры і музычнае кемэдыі, або ілюстрацыі да спэктаклю, — уваскрашаць усё каштоўнае, прапагандаваць і падаваць у магчыма прывабным, высакамастацкім выкананьні.

Творы нашых слаўных кампазытараў, як «Купальле» Туранкова ды «Лясное возера» Шчаглова даюць найлепшы матар'ял, каб на ім выхоўваць добры мастацкі густ, даваць эстэтычную асалоду, абуджаючы адначасна нацыянальныя пачуцьці.

Вось усё гэта і зьяўляецца неадкладнымі праблемамі творчасьці нашага Беларускага тэатру

*Вячаслаў Селях.*



*Сцэна з фантастычнага пралёгу да опэры «Купальле» А. Туранкова.*



*Салістыя Лазараў і Купцэвіч у галоўных ролях опэры «Купальле» А. Туранкова на сцэне Менскага Беларускага Гарадзкога Тэатру.*



# Юр. Монвід

# Страшны год

*(Успаміны нядаўніх дзён)*

*(Заканчэньне.)*

## ПЕРШЫЯ „ЛАСТАЎКІ“

Паявіліся на небе самалёты. Гэта былі нямецкія самалёты! З якой радасьцяй я ім прыглядаўся! Неўзабаве пачуліся гукі выбухаў. Гэта было для мяне найпрыгажэйшай мэлёдыяй, якую я чуў у сваім жыцьці . . .

У мястэчку было шмат жыдоў. Хутка мой лес за мостам пачаў напаўняцца жыдамі. З пярынамі, падушкамі, клункамі беглі яны у лясны гушчар, каб схавацца ад выбухаў бомбаў.

Я таксама пацягнуўся у лес, дзе чакаў, што далей з гэтага будзе.

Да мяне падыходзіць нейкі жыд. Закурваем папяросы. Гутарым.

— А я вас, здаецца, ведаю, — кажа раптам незнаёмы. — Мы з вамі спатыкаліся у Вільні у рэдакцыі. Вы — Монвід? Праўда?

Мурашкі прабеглі па маёй сьпіне.

— Вы памыляецеся, — кажу — гэта мусіць нехта падобны да мяне. Часта мяне спутваюць з некім . . . Я ня Монвід.

— Са мной можаце сьмела гутарыць. Аднак я ведаю, што вы Монвід.

У паветры лёталі нямецкія самалёты, але на зямлі яшчэ былі бальшавікі. Факт, што мяне пазналі, зусім мяне абяскуражыў.

## БАЛЬШАВІКІ УЦЯКАЮЦЬ

Нехта казаў, што адзін з бальшавіцкіх камандзераў заявіў насельніцтву, што у мястэчку будуць жорсткія баі, што бальшавікі думаюць заядла бараніцца. Дык няхай лепш насельніцтва пакіне свае хаты.

І вось цягнуцца вазы, наладаваныя усячынай. На кучы клункаў сядзяць дзеці, жанчыны. Мужчыны, ідучы побач, падганяюць каня, папраўляюць зьвіслыя з возу манаткі. Усе пруцца у лес, каб схавацца у гушчары.

Рэчку можна перайсьці уброд. Цяпер, у канцы чырвеня, вада даходзіць людзям да калена. Людзі і вазы імкнуцца праз рэчку на другі бок, каб далей ад мястэчка, каб глыбей у лес.

Аднак, да бітвы не дайшло. Бальшавікі уцякаюць. Ужо на другі дзень раніцай праходзяць апошнія аддзелы. На дарозе застаюцца паламаныя вазы, папсаваныя машыны, стрэльбы, газавыя маскі. Недзе скубе траву пакінуты асядланы конь.

Праз лясны гушчар прабіраецца нейкі невялічкі аддзел, чалавек мо' з трыццаць. Заселі паміж кустамі. Але зусім ня маюць баявога выгляду. Адзін кідае на зямлю свой шлём, які яму гняце галаву. Іншы, каб пазбыцца лішняга багажу, адшпільвае скрынку з газавай маскай. Ня чуваць тут ніякіх загадаў. Ня чуваць гутаркі. Няма аб чым казаць. Ува усіх у галаве адна думка . . .

Гэта тыя, якія, чакаючы пакуль праваліцца хваля уцякаўшага войска, думаюць аддацца у палон.

Прытуліўшыся да сваіх вазоў мястэчкавыя людзі, з трывогай паглядаюць на гэтую маўклівую вайсковую групу, ня ведаючы аб ейных плянах . . .

## НА ДРУГІ ДЗЕНЬ

У панядзелак пад вечар з мястэчка далятае гудзеньне матораў, грымотаў зялезных машынаў. Па пяшчаных дарогах пасоўваецца авангарда нямецкага войска. З трэскам матораў імкнуцца матацыклістыя, выпераджаючы цяжкія, засеўшыя у пяску машыны. Жаўнеры у шэрых запыленых шынэлях, пот плыве па твары, мяшаючыся з пылам . . .

— — — — — — —

*М. Сяднёў*

### АДЗІНСТВА ХАРАСТВА

*Сьвет разнастайны і багаты. Многа*
*У ім і зьяў, і фарбаў, і прымет.*
*Але ў бліскаўньні сонца агнявога*
*Адзінствам харасгва чарve сьвеј.*

*Растуць зялёным морам травы,*
*Пасьля дажджоў такая цішыня.*
*Дзіўлюся я. І сонцу славу*
*Нясу на вуснах, нібы радасьць дня.*

*Як мудрасьць вечная стагодзьдзяў,*
*Яно нам асьвятляе шлях.*
*Зажмурыш вочы на выгодзе —*
*І сьвет зьвініць тады ў вушах.*

*Зямля імчыць. І ные цела,*
*З зямлёй плывеш у забыцьці.*
*Мая душа яшчэ ня мела*
*Такога шчасьця у жыцьці.*

*Нібы радзіўся зноў ты. Яснасьць*
*І глыбіня нябёс, і пышны цьвет.*
*Гатоў ад радасьці рукамі ўсплясную —*
*Адзінствам хараства так вабіць сьвет.*

*Р. Крушына*

### Я З ТАБОЙ ПЯЮ

*Я гляджу на мілую маю:*
*Беларусь чульліва пазнаю.*
*Ты сплятаеш русую касу —*
*Сонечную жыта паласу.*
*І здаецца, у вачох тваіх —*
*Сіні цьвет валошак палявых.*
*Сьпеў твой цікі поўніць мой пакой,*
*Дзе-ж мая цьвярозасьць і спакой?*
*Выглядаю, бачыш юнаком!*
*Палымнею песенным радком,*
*І хмялею ўцешна бяз віна.*
*Ці ня ў гэтым ёсьць твая віна?*
*Я ў цябе радзіму пазнаю,*
*І таму з табой цяпер пяю.*

17. 2. 44.

*Алесь Салавей*

*

*Жыў-быў у Койднаве Радзюк Альфрэд*
*І ня было там Салаўя Алеся.*
*Цяпер ён ёсьць і, кажуць, ён — паэт,*
*Але . . . жыве далёка, ў Рызе дзесьці.*
*І кажуць, што забыўся ён пра ўсіх*
*Сяброў, пра брата меншага й сястрыцу;*
*Штось піша . . . а ў паэзіях сваіх*
*Хоць раз ня можа ім ён пакланіцца.*
*Відаць, ня хоча прызнавацца ён,*
*Што ён — Радзюк, для койднаўцаў вядомы.*
*Паэтам стаў Алесям Салаўём, —*
*Дык і ня хоча зазірнуць дадому . . .*
*Сястрыца родная! Мой родны брат!*
*Каб зналі вы, як мне бяз вас балюча!*
*Каб зналі вы, як быць я з вамі рад,*
*Як дзень і ноч мяне разлука муча!*
*Я ў Менску быў, так блізка быў ад вас,*
*Але ніяк ня змог да вас прыехаць.*
*Шмат сотняў раз пракляў я гэны час,*
*Што ня пусьціў мяне да родных стрэхаў.*
*І я паехаў з болем у грудзёх*
*Назад, у край чужы, чужую Рыгу,*
*Дзе, будучы ў самоце, па начох*
*Пісаў, і дзе цяпер друкую кнігу.*
*Друкую, так . . . І вершы зноў пішу,*
*І, родныя, пра вас я ўспамінаю,*
*Сагрэць хачу ўспамінамі душу —*
*Яна яшчэ жыве, 'шчэ не канае.*
*Я рад зноў быць Альфрэдам Радзюком,*
*Ня знацца век з чужымі гарадамі,*
*Каб быць у Койднаве, ці ў Менску, мець пакой,*
*І жыць, маё няшчасныя, там з вамі.*
*Тады мо' й вершы-б іншымі былі:*
*Пра Радзюкоў, што шчасьця век ня мелі,*
*Пра іх няшчасны лёс, пра стогн зямлі,*
*А не пра песьняў салаўіных трэлі.*

*Рыга, 30. IV. 1944 г.*

*Кампазытар*

# АЛЕСЬ СПАСКІ



Вынікам новага этапу гісторыі беларускае музыкі зьявіўся шырокі плённы разьвой творчасьці беларускіх кампазытараў, што працавалі і раней, а таксама уступленьне у іхныя шэрагі новых маладых і таленавітых музыкаў, якія хутка удасканальваюць сваё творчае майстроўства і уносяць каштоўны уклад у скарбніцу музычнага мастацтва беларускага народу.

Такім прадстаўніком маладога пакаленьня кампазытараў зьяўляецца Алесь Спаскі, які цяпер жыве і працуе у горадзе Баранавічах. Нарадзіўшыся у сям'і музыкі у 1911 г., ён атрымаў добрую музычную адукацыю, пасьпяхова скончыў былую Ленінградзкую кансэрваторыю па клясе кампазыцыі. Добра ведаючы, як важна для кампазытара ня толькі тэарэтычнае авалоданьне складаным арсэналам разнастайнейшых сродкаў музычнага выражэньня, малады музыка, не абмяжоўваючыся лекцыямі прафэсараў свайго факультэту, імкнуўся на практыцы пазнаць гучаньні розных музычных інструмэнтаў, якія складаюць багацейшую палітру хварбаў і адценьняў сучаснае сымфанічнае аркестры. Таму, паралельна асноўнаму курсу кампазыцыі, ён наведваў клясы выканальнага мастацтва і дырыгаваньня. Гэткім чынам, пасьля сканчэньня вучобы, А. Спаскі выступіў на арэну музычнай творчай дзейнасьці усебакова адукаваным музыкай, які добра ведае каляровыя і тэхнічныя мэгчымасьці аркестравых інструмэнтаў, што, зразумела, зьявілася вялікай дапамогай і моцнай тэхналёгічнай базай у ягонай творчасьці.



Нягледзячы на маладосьць А. Спаскага і на тое, што ягоная творчасьць разгарнулася толькі у пасьлясавецкі час, ён валодае дастаткова багатым і разнастайным па зьместу творчым партфэлем. Паміж ягоных твораў мы бачым опусы для вялікае сымфанічнае аркестры, для хораў, камэрную літаратуру, творы для асобных сольных інструмэнтаў, рамансы, апрацоўкі народных песьняў, а таксама шэраг духоўных твораў. Гэткім чынам, сваёй творчасьцю ён ужо ахапіў амаль-што усе галіны музычнага мастацтва за выняткам опэры.

Побач з дасканалым тэхнічным майстроўствам, усім творам А. Спаскага, да якой-бы галіны музычнай творчасьці яны не датычыліся, уласьціва імкненьне будаваць свае творы на адным патоку музычнага руху, паступовае разгортваньне якога заўсёды ідзе згодна ідэйнаму сэнсу зместу твору. Зразумела, гэтае імкненьне — чыста інструмэнтальнымі сродкамі вытлумачыць адпаведную ідэю — лепш усяго ажыцьцяўляецца у сымфанічных творах. Адсюль і вялікая зацікаўленасьць кампазытара багатай палітрай гучаньняў і нюансаў сымфанічнае аркестры.

Нядаўна А. Спаскім скончаныя і прынятыя у Менску да выкананьня сымфанічныя творы: «Нёман» і «Танцавальная». Яны зьяўляюцца двума сымфанічнымі абразамі, рэзка кантрастуючымі адзін з другім. Абодвы творы пабудаваны на напеўках і інтанацыях народных беларускіх мэлёдыяў і праграмныя паводля свайго зьместу. У празрыстай і паэтычнай аркестроўцы «Нёману» кампазытар перадае рамантычны пэйзаж ракі у час вечара, калі поўны месяц, асьвятляючы срабрыстым бляскам зыбучыя плыні, надае усяму пэйзажу нейкі фэерычны і казачны характар. На гэтым фоне аўтар разгортвае праграму свайго твору — паэтычную легенду аб загінуўшай у рацэ дзяўчыне, якая першым маладым пачуцьцём кахала хлапца, але той зрадзіў ёй з іншай, і несупакоены цень затонутай, як белая здань, зьяўляючыся паміж хваляў, вечна імкнецца знайсьці таго, хто яе загубіў.

Глыбака лірычная і мяккая тэма, што адпавядае гэтаму бясплотнаму і няўлоўнаму вобразу, уплятаецца у шырокую мэлёдыю ракі і як быццам распускаецца у ёй.

Добрым кантрастам да «Нёману» зьяўляецца «Танцавальная», — яркі і каляровы абраз народнае гульні і вясельля, калі

жыцьця, адкінуўшы усе свае штодзённыя клопаты, цалкам аддаецца сьвяточнаму настрою. У эфэктнай аркестроўцы гэтага твору, які пакідае бадзёрае і сьвяточнае уражаньне, часам адчуваюцца уплывы аркестравых прыёмаў Стравінскага (магчыма ягонай «Пятрушкі»).

Аўтар думае пазьней дапоўніць гэтыя дзьве часткі да сымфанічнае сюіты, у якой тады «Танцавальная» зойме мейсца скэрцо.

Цяпер А. Спаскі працуе над вялікай сымфоніяй на беларускія тэмы. Гэта ягоная асноўная праца у сучасны мамэнт, і на падставе уражаньня, якое пакідаюць тыя ейныя фрагмэнты, якія нам пашчасьціла праслухаць, можна меркаваць, што гэты твор, які цалкам захапіў творчае натхненьне кампазытара, зьявіцца каштоўным укладам у сымфанічны беларускі рэпэртуар.

З твораў для камэрнага ансамблю трэба адзначыць струнны квартэт, напісаны з добрым веданьнем усіх асаблівасьцяў гучаньня інструмэнтаў і у музыцы якога аўтар паказвае сябе тонкім і сьвежым мастаком гармоніі і разнастайных сродкаў кантрапункту.

Зьяўляючыся добрым басалістым і піяністым, А. Спаскі ахвотна піша для гэтых інструмэнтаў. Сюды датычацца такія ягоныя творы, як «Сюіта у клясычным дусе», «Мэлёдыя» і іншыя для басолі, а таксама «Сюіта на беларускія тэмы» і «12 прэлюдыяў» для фартапіяна. Гэтыя «Прэлюдыі», арыгінальныя і сьвежыя па музыцы, зьяўляюцца ак-бы творчай лябараторыяй кампазытара. У іх ён прабуе і асвойвае новыя гарманічныя прыёмы, узьнікшыя у сучаснай гарманічнай тэхніцы, разьмяркоўвае тэмбро-хварбы і г. д. Але гэта ня значыць, што «Прэлюдыі» маюць толькі лябараторна-экспэрымэнтальнае назначэньне. Ясныя па форме і цікавыя па гучаньню, яны з посьпехам могуць быць улучаны у рэпэртуар піяністага, зразумела, дастаткова падрыхтаванага, бо з тэхнічнага боку яны становяць шэраг цяжкасьцяў для выканаўцаў.

Галіна вакальная творчасьці прадстаўлена у А. Спаскага шэрагам рамансаў і ансамбляў на словы беларускіх паэтаў: Арсеньневай, Багдановіча, Чарота і інш., а таксама шэрагам апрацовак беларускіх народных мэлёдыяў.

У рамансавай лірыцы А. Спаскага спалучаюцца уплывы экзальтаванай патэтыкі Рахманінава (асабліва у фартапіянных партыях) з Шуманаўскім імкненьнем прасякнуць сваёй музыкай у самую глыбіню тэкставага зьместу. Імкненьне стварыць такія узаемаадносіны паміж тэкстам і музыкай, калі абодвы гэтыя ігрэдыенты, як быццам «падаюць у вабдымкі адзін да аднаго», (словы Шумана, якія выражаюць ягонае кампазытарскае крэдо у галіне рамансу), выклікала і надзвычайна адказную ролю фартапіянных партыяў у ягоных рамансах, у якіх аўтар часам адчыняець таямнічы зьмест слоў і падкрэсьлівацы іхнае значаньне. Зразумела, рамансы А. Спаскага не зьяўляюцца творамі для эстраднай праграмы, якія магчыма выконваць побач з эксцэнтрычным танцам, або маніпуляцыямі жанглёра. Аднак, у бальшыні выпадкаў гэтая сур'ёзнасьць стылю і глыбіня, часам складанасьць, якая на першы пагляд здаецца залішняй і надуманай, ня робяць рамансы А. Спаскага узорамі «галоўнай» творчасьці і не адымаюць у іх беспасярэднасьці і шчырасьці. Наадварот, адзінства тэксту і музыкі у некаторых творах зьяўляецца настолькі арганічным, што такія рамансы, як «Вясна», «Ноч», «Шэпты ночы», «Астры» становяць сабою запраўдныя узоры таго віду музычнай творчасьці, якая у Нямеччыне атрымала назоў durchkomponierte Musik і цудоўнымі прадстаўнікамі якой былі Шуман, Брамс і Вольф.

Выразны лёканізм мэлёдыі, навізна фартапіяннага калярыту, сьмеласьць кадансаў, узьнікненьне усёй фактуры з эмацыянальных прадпасылак тэксту — гэткія галоўныя вартасьці рамансаў А. Спаскага, і застаецца толькі шкадаваць, што яны параўнальна рэдка гучаць у нашых канцэртах, відавочна, адпіхваючы выканаўцаў сваёй вонкавай складанасьцяй і тэй увагай і прадуманасьцяй выкананьня, якія яны патрабуюць ад выканаўцаў.

Індывідуальнасьцяй і своеасаблівасьцяй адзначаюцца і апрацоўкі А. Спаскім народных беларускіх песьняў: «А у полі ялінаčка», «Ах ты, поле маё», «Чоботы», жартоўны дуэт «Го-го-го, каза», ды інш. Часта іх нават цяжка назваць апрацоўкамі. Хутчэй гэта зусім самастойныя творы, дзе народная тэма узята аўтарам толькі як першапачатковы штуршок для ягонай творчай фантазіі, якая шырака разгортвае гэтую асноўную папеўку у цэлы музычны абраз. Пагэтаму, куплетную форму народнай песьні аўтар часта перакварае у скончаны музычны твор, дзе мэлёдыя, створаная на аснове народнай песеннай тэмы, гібка сьледуець за ізгібамі сэнсу тэксту. Гэткі прыём, які часта ажыцьцяўляе А. Спаскі у сваіх рамансах, можна знайсьці у песьнях, як «А ў полі ялінаčка», «Ах ты, поле маё», — дзе гэты прыём, узьнікшы з імкненьня аўтара сымфанізаваць вакальную тканіну, памастацку добра апраўдвае сябе.

Есьць яшчэ музычная галіна, якая прываблівае А. Спаскага — духоўная музыка, якую аўтар добра ведаець і адчуваець. Урачыстая прастата і яснасьць гучаньня, прасьветленая «отрешенность» ад зямных турбот і адыход у галіну высокіх ідэальных пачуцьцяў — усё гэта імкнецца выявіць ён у творах для праваслаўнай царквы — літургіі і каталіцкіх хораў з арганам «Хто пад апеку», «Сэрца Езуса», «Вітай, Марыя», ды інш.

•

А. Спаскі яшчэ малады кампазытар, якому, бязумоўна, належыць зрабіць і дасягнуць больш, чым ён ужо зрабіў і дасягнуў. Аднак, ужо і цяпер ягоны кампазытарскі актыў дазваляець бачыць у ягонай асобе своеасаблівага і таленавітага мастака, які валодаець, побач з добрымі прыроджанымі музычнымі дадзенымі і высокай тэхнічнай падрыхтоўкай, яшчэ аднэй надзвычайна каштоўнай для кампазытара якасьцяй — сталым імкненьнем да шуканьня новых дасканалых музычных сродкаў, ня толькі для таго, каб быць «арыгінальным» і непадобным да іншых, а для таго, каб больш глыбака і псыхалёгічна-апраўдана выяўляць вобразы і ідэі, што хвалююць яго. Можна толькі пажадаць яму яшчэ больш моцна зьвязаць сваю творчасьць з мастацтвам беларускага народу і, захаваўшы індывідуальную своеасаблівасьць свайго стылю, больш арганічна пераплавіць у горне народнай творчасьці некаторы аб'ектывізм жыцьцёўспрыйманьня у аб'ектыўна шырокі ахоп зьяваў, якія зьвязаны з гістарычным былым і сучасным, з лёсам і спадзяваньнямі беларускага народу.

*Ал. Карповіч*








*(Працяг)*

ХОР: Гуляй сабе, мілая, як гуляла,
Наймай сабе йскрыпкі, дудкі, як наймала,
Хадзі сабе да карчомкі, як хадзіла,
Гуляй сабе з малайцамі, як гуляла!

ХЛОПЦЫ: *(Рагочуць.)*: Добра было-б, каб так!
*(Надыходзяць бацькі Настулі і Сьцяпан.)*

БАЦЬКА *(З гіроніяй.)*: Знайшлася згуба?
Ой, лучщовачкі табе трэба!

СЬЦЯПАН *(Надзьмуўшыся.)*: Голы, як бізун,
А ганарыцца!

МАЦІ: Годзе, годзе!
*(Пятрук ізноў загараецца, але, сустрэўшы занепакоены пагляд Настулі, махае рукой і адыходзіць на бок.)*

КАЦЯРЫНА *(Залётна.)*: Сьцяпан, а Сьцяпан!

СЬЦЯПАН *(З пагагай.)*: Чаго чэпішся?
Мала табе хлопцаў?

КАЦЯРЫНА: А ты, чым ня хлопец?
Што, дзяўчаткі?

ДЗЯЎЧАТЫ: Хлопец, хлопец, ды 'шчэ які!

ХОР: Такі-сякі целяпень,
Якраз ў бацьку ўдаўся,
Як улез у вагарод,
Ў крапіве схаваўся!
А як вылез з крапівы,
Ды ўзяўшыся ў бокі:
— Паглядзеце бабы,
Паглядзеце дзеўкі,
Які я высокі!

СЬЦЯПАН *(З абурэньнем.)*: Княць!
Хоць ня высокі, — затое багаты!

ХЛОПЦЫ: Ён у шырмкі расьце! *(Усе рагочуць.)*

КАЦЯРЫНА: Хай княць!
А мы з табой — паскачам!
*(Сілком выцягвае Сьцяпана і пачынае з ім круціцца.)*

КАЦЯРЫНА:-Эх, калышка вецер веньце,

СЬЦЯПАН: Нам — нішто сабе жывецца!

ХОР: Хай на нас што хочаць валяць,
Маем грошы, маем сала,
А па рэшце — не бяда,
Парасьце хай лебяда!
*(Некалькі пар ў ідзе у скокі за імі.)*

ДЗЕД *(Выходзіць наперад і падымае угору руку.)*:
До! До! Усё-б гулялі!
*(Скокі памалу спыняюцца.)*
Ці ня час дахаты? Сонейка заходзіць!
*(Усе пачынаюць зьбірацца дахаты і, пабраўшы косы і граблі, паволі адыходзяць, сьпяваючы хорам.)*

ХОР: Ой, то-то! Пятрова ночка невялічка! Ой, то-то!
Ой, то-то! Чаму-ж яна невялічка? Ой, то-то!
Ой, то-то! Нашы дзеванькі ня высапаліся! Ой, то-то!
Ой, то-то! Усю ночку ня спалі, шнуры сукалі! Ой, то-то!
Ой, то-то! Шнуры сукалі шаўковыя! Ой, то-то!
Ой, то-то! Свайму мілому на касавіцу! Ой, то-то!
Ой, то-то! На зялёную травіцу! Ой, то-то!

(З а с л о н а.)

II АКТ

*(Хата багатага селяніна Маркі. Асеньні вечар. На пяколку сядзіць дзед і пляце лапаць. Каля печы Пятрусь уе вяроўку. Настуля круціцца па хаце, прыбіраючы тое-сёе.)*

ДЗЕД *(Апавядае.)*:
І пайшоў тады бацька твой у сьвет . . .
Не захацеў быць у парабках вечных . . .

ПЯТРУСЬ: І я не хачу век парабкам быць!
*(Горача.)* Не, не!
*(Выцягвае рукі, выпроствае грудзі.)*
Гмень, дзеду! Рукі маё моцныя,
Як пастронкі! Грудзі шырокія!
Няўжо-ж я долі не знайду нарэшце?
Не, кіну ўсё, пайду ў сьвет шырокі,
Із туравамі й я у вырай палячу!

ДЗЕД: Эх, сынку, — горкі хлеб
З чужых, ня нашых нівау.

ПЯТРУСЬ: Няхай . . . няхай . . . і тут
Ён для мяне — ня мёд!
*(Рашуча.)* Пайду!

НАСТУЛЯ *(Пачуўшы.)*: Куды ты пойдзеш?

ПЯТРУСЬ: У сьвет!

НАСТУЛЯ *(Зачырванеўшыся, са сьлязьмі у голасе.)*:
А . . . а я?

ПЯТРУСЬ *(Горка.)*: Мо замуж выйдзеш ты?
А можа вырай той
Мне шчасьце прынясе
І я вярнуся ў вёску
Із торбай грошай і . . .

НАСТУЛЯ *(Вясёла.)*: Ажэнішся са мной?

ДЗЕД: Дзіця!

ПЯТРУСЬ: Дзіця . . . дзіця . . .
*(Чуваць у сенях сьмех і грукат. У хату зьбягаюцца дзяўчаты з калаўротамі на супрадкі, на чале іх — як заўсёды — Кацярына.)*

ДЗЯЎЧАТЫ: Вечар добры ў хату!

НАСТУЛЯ *(Вясёла выбягае ім насустрач.)*:
Хадзеце, дзяўчаткі, хадзеце!
*(Дзяўчаты, пакруціўшыся па хаце, са сьмехам сядаюць і пачынаюць прасьці. Колькі часінаў у хаце ціха, чуваць толькі вурчэньне калаўротаў.)*

ДЗЕД *(З печы.)*:
Чаму не засьпяваеце, дзяўчаткі?!
Засьпявайце, пацешце дзеда!
— Эх, песьні нашы, песьні!
Із вамі цешыцца народ,
Із вамі плача.
Вы сустракаеце дзіцятка на парозе
Нязнанага жыцьця . . . вы-ж яго ў магілу
Адвозіце пасьля . . .
Эх, песьні, песьні нашы!

ДЗЯЎЧАТЫ: Добра! Засьпяваем, дзядуля!

КАЦЯРЫНА: Якую вам?
Вясёлую, ці смутную?

ДЗЕД: І такую, і гэткую, Кацярына!
*(Дзяўчаты сьмяюцца.)*

ДЗЯЎЧАТЫ: Настуля, пачынай!

НАСТУЛЯ: Хай Кацярына пачынае!

УСЕ: Абедзьве сьпявайце!

НАСТУЛЯ і КАЦЯРЫНА *(Жвава.)*:
Туман, туман на даліне,
Шырок лісток на каліне,

ХОР: Шырэй таго на дубочку,
Кліча галуб галубочку.

НАСТУЛЯ і КАЦЯРЫНА:
Кліча сваю, ня чужую,
Чакай, сэрца, пацялую!

ХОР: Нашто-ж маеш цалаваці,
Сэрцу тугі задаваці!

УСЕ РАЗАМ *(Хутка і вясёла.)*:
Не задавай сэрцу тугі,
Ня возьмеш ты — возьме другі,
Не задавай сэрцу тугі,
Ня возьмеш ты — возьме другі!

ДЗЯЎЧАТЫ: А цяпер другую!
*(Пятрусь выходзіць з-за печы і, прысланіўшыся да печы, слухае.)*

ХОР *(Працягла.)*: Ой, дзяцелі гусі
Ды з чужога краю,
Пачакайце, гусі,
Я вас папытаю:
Мо' з таго вы краю,
Скуль мілога маю?
Ах, ці ён запіўся,
Ці ён загуляўся,
Што дамоў ня едзе,
Адно пакланіўся?
Ой, ён не запіўся,
Ён не загуляўся,
Ён па хлеб і долю
Ў чужы край падаўся . . .
*(Пятрусь сумны надыходзіць да дзеда і сядае пры ім.)*

НАСТУЛЯ: Дзяўчаткі! Кідайце прасьці,
Пагуляем!

УСЕ: Пагуляем! Пагуляем!

НАСТУЛЯ: У яшчура, дзяўчаткі!

УСЕ: Ў яшчура, ў яшчура!

КАЦЯРЫНА *(Заўважыўшы Пятруся.)*:
Дзяўчаткі! Пятрусь тут!
Цягнеце яго!
Ён за яшчура будзе!
*(Дзяўчаты выцягваюць Пятруся на сярэдзіну хаты, дзе саджаюць на калодачцы. Пятрусь і балет пачынаюць ведамую гульню у яшчура. Хор стаіць вакол і сьпявае «Сядзіць, сядзіць, яшчур . . .» і г. д. У сярэдзіне гульні, па ходзе яе, Пятрусь хоча сарваць хустку з галавы Настулі, тая уцякае, Пятрусь за ёю, ловіць яе за печай і прыціскае.)*

ПЯТРУСЬ: Настуля! Будзеш маёю?

НАСТУЛЯ: Буду, буду!
*(Цалуюцца. Настуля вырываецца і уцякае да рэшты дзяўчат.)*

ДЗЯЎЧАТЫ: Яшчур, яшчур, дзе ты?
Хадзі! Сядай!
*(Пятрусь сядае і гульня цягнецца далей. У хату уваходзяць бацькі Настулі.)*

БАЦЬКА: Э! ды ў нас вясёла!

МАЦІ *(Да Настулі.)*:
А табе ўсё гулі, ды гулі!
*(Дзяўчаты разьлятаюцца, сядаюць на лавах і зноў пачынаюць прасьці. Пятрук адыходзіць за печ і прыймаецца за вяроўку. Цішыня . . . Гудуць калаўроты . . . Бацька Настулі распранаецца ля дзьвярэй. Маці нешта робіць каля печы. Раптам за вакном чуюцца званочкі. Дзяўчаты кідаюцца да вакна.)*

*(Працяг будзе)*




# Над возерам

Аўген Залешын



Прыгожае вясновае раньне. Ні ветру, ні гуку… Толькі у вяршаліне вярбы, пад якою у прыемнай задуменнасьці сядзелі Іван Данілавіч і Мар'я Пятроўна, ціха і радасна цілі́ўкалі птушкі…

А у небе сьмялася сонца…

Яно ліло свае залатыя промені на возера, на далёкую істужку лесу, якая расьцягнулася на другім беразе праз увесь небасхіл, на выган, дзе вясёлкава зіхацелі у высокай траве мільлёны дыямэнтаў — кропляў росаў, што не пасьпелі 'шчэ высахнуць, і на пахіленыя сялянскія хаты, якія здаваліся здалёк лялечнымі, казачнымі, бо былі ахутаныя лёгкім вэлюмам празрыстага туману. І самое паветра здавалася чароўным: яно было сьвежым, і нават дыхалася неяк вольна і лёгка.

Мар'я Пятроўна, склаўшы рукі на усхваляваных грудзях, шчасьлівым, закаханым позіркам глядзела то на чыстую, залатую люстру возера, якое грэлася у цёплых праменях вясновага сонца, то на радасна узбуджаны твар Івана Данілавіча.

А той сядзеў гэтаксама моўчкі, як і яна, і, павольна папыхківаючы старою люлькаю, увесь час чамусьці салодка усьміхаўся. Ён адчуваў прыемную асалоду і таму, што побач з ім была Мар'я Пятроўна, і таму, што гэтак цёпла і лагодна прыпякала сонца.

— Ах!… — уздыхнула нарэшце Мар'я Пятроўна, пяшчотна прытуліўшыся да пляча Івана Данілавіча. — Як цудоўна тут! Ах, як цудоўна!

Іван Данілавіч не сьпяшаючыся выбіў аб свой бот люльку, і толькі потым, паглядзеўшы на шчасьлівы, замілаваны твар Мар'і Пятроўны, паважна уздыхнуў, прамармытаўшы:

— Праўду кажаш… Праўду…

Мар'я Пятроўна абвіла ягоную шыю сваймі маленькімі рукамі, і, быццам-бы у ціхім марэньні, гледзячы у бязьмежную прастору блакітнага неба, ціха і радасна шаптала:

— Ты зразумей толькі, Іван… Зразумей, колькі гадоў мінула з таго часу, калі мы адзін аднаму сказалі гэтае жахлівае слова «бывай»… Колькі гадоў… І вось цяпер мы ізноў разам… Ах, як гэта прыемна!…

Іван Данілавіч у задавальненьні сьцепнуў плячыма і падкруціў свой правы вус, асьцярожненька, ціхенька шапнуўшы:

— Гэтак… Гэтак…

Мар'я Пятроўна некаторы час лятуцейна глядзела 'ціч' у неба, пасьля, раптам схамянуўшыся, хуценька, сьпяшаючыся пацалявала Івана у галаў і тут-жа, нібы засароміўшыся, пачырванела, як шаснаццацігадовая дзяўчынка.

— Ах, любы мой! Я гэтакая шчасьлівая, гэтакая шчасьлівая!… Божачка-ж мой!…

Іван Данілавіч, прыжмурыўшы левае вока, паглядзеў на сонца, потым — у твар Мар'і Пятроўны, і, адчуваючы нейкую незразумелую няёмкасьць, згроб яе, маленькую, хударлявую, у моцным абдымку.

— Праўду кажаш… — ціхім басам прамовіў ён, гледзячы у ейныя натхнёныя вочы, поўныя нявымоўнага пачуцьця каханьня. — Далібог! Я гэтаксама шчасьлівы сяньня!… Давай — пацалуемся!.

Па твары Мар'і Пятроўны прабег сполах, нават жах. Але рукі Данілавіча гэтак моцна сьціскалі яе і ягоныя вусы гэтак прывабна рухаліся, што сэрца ейнае ня вытрывала. Яна закрыла свае вузенькія вочы, выцягнула да Данілавіча шыю і застыгла у радасным чаканьні.

— На, цалуй… — млявым голасам амаль што прапела яна.

Данілавіч зьнянацку гучна цмокнуў.

У гэты час ззаду іх пачуўся звонкі дзіцячы галасок:

— Дзядуля! Бабуля! Маці на сьнеданьне вас кліча! Хутчэй!..

Данілавіч сарамліва закрахтаў, а маленькая Мар'я Пятроўна, спалохана усхапіўшыся і няўпрыцям папраўляючы пакамечаную сукенку, рабіла выгляд, быццам-бы уважліва разглядае собскае адлюстраваньне у возеры.

А сонца, цёплае, вясновае сонца, льлючы на зямлю залатыя промені, весела сьмялася…

## Добры ці асьцярожны!

— Васіль мне казаў, што ён сваёй жонцы ніколі не сказаў прыкрага слова.

— Ці гэта таму, што ён такі добры, ці праз асьцярожнасьць?

## Гэта і відаць

— Мая жонка, выходзячы за мяне за муж, была ужо падсьлепаватая.

— Гэтаму можна лёгка паверыць.

## Таксама жарт

Дачка: — Тата, я вельмі жадала-б, каб ты паслухаў калі-небудзь жартаў Уладзіка. Ён бывае такі жартаўлівы.

Бацька: — Ягоны жарт чуў я ужо учора. Прасіў мяне, каб узяць яго за зяця…

## Трапіў на вуду

Маладая жонка: — Ты у той вечар, калі запрапанаваў мне выйсьці за цябе замуж, выглядаў як рыба, выцягнутая з вады…

Малады муж: — І запраўды, я быў тады рыбай, удала злоўленай на вуду.

## Хто грошы нясець, таго просяць сесьці

Пятручок: — Тата, прыйшоў нейкі чалавек з рахункам!

Бацька: — Скажы, што мяне няма дома.

Пятручок: — Але, калі ён кажа, што хоча табе заплаціць доўг…

Бацька: — Што? Хоча мне заплаціць?! Прывядзі яго хутчэй!…

## Цаніцель мастацтва

— Ці магу спадзявацца, што вы прыдзеце заўтра да нас на вечар? Будзе шмат гасьцей. Адна мая дачка будзе пяяць, другая дэклямаваць вершы… А а 11-й гадзіне — вячэра…

— Вельмі дзякую за запросіны… Пунктуальна зьяўлюся у 11 гадзін.

## Невядома…

— Вы, спадарыня, ня можаце сабе уявіць, які заяц палахлівы.

— Магчыма. Але каб заяц меў стрэльбу, а вы зайцавы ногі, то невядома, ці быў-б за яго адважнейшым.

